Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 590.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Серада, 22 красавіка 1998 г. № 42 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Шыдлоўскага адпраўляюць у калонію

**Учора ў Вярхоўным судзе разглядалася апеляцыя па справе Шыдлоўскага і Лабковіча.**

Прысуд над Аляксеем Шыдлоўскім і Вадзімам Лабковічам пакінуты без зьмяненняў і ўступіў у сілу. Праз некалькі дзён актывіст Маладога Фронту 19-гадовы Аляксей Шыдлоўскі будзе этапіраваны з мінскага следчага ізалятара ў калонію, дзе правядзе амаль год.

Было спадзяванне, што вышэйшая судовая інстанцыя перагледзіць рашэнне. Аднак гэтага не адбылося: члены Вярхоўнага суда Смірноў, Чамрукоў і Чубкавец палічылі віну хлопцаў цалкам даказанай і пакінулі без зьмяненняў прыгавор Мінскага абласнога суда, які прысудзіў хлопцам па 1,5 года калоніі ўзмоцненага рэжыму (Лабковічу — умоўна) за антыпрэзідэнцкія надпісы на сценах. Сем месяцаў Шыдлоўскі ўжо адседзеў.

Дарэчы, на разгляд апеляцыі Аляксея Шыдлоўскага ў суд не прывозілі. А вось Вадзім Лабковіч на паседжанні прысутнічаў. Яму запомніўся такі эпізод: калі старшыня калегіі Чубкавец зачытваў рашэнне, суддзі не падымалі вачэй.

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

### Газпром выбівае даўгі

**Учора прэзідэнт Лукашэнка сустрэўся са старшынём «Газпрома» Рэмам Вяхіравым. Асноўнай тэмай перамоваў была праблема запазычанасці за пастаўлены ў Беларусь расійскі газ.**

Сітуацыя з даўгамі набыла выбухованебяспечны характар для нашай эканомікі. Яшчэ з 15 сакавіка гэтага года Расія абмежавала пастаўкі газу ў Беларусь на 30 працэнтаў, а цяпер пагражае скараціць іх на 50%. Прычынай стаў рэкордны скачок нашага доўгу «Газпрому», які цяпер складае каля 240 мільёнаў долараў. Расійскі бок патрабуе, каб Беларусь разлічвалася пераважна грашыма, а не таварамі.

Алесь ДАШЧЫНСКІ

### Да Ганновера – і назад

**Сёння прэзідэнт Лукашэнка адпраўляецца на пару дзён у Германію.**

Паездку можна назваць турыстычнай. Плануецца, што Лукашэнка наведае Гановерскі кірмаш і сустрэнецца з прадстаўнікамі дзелавых колаў. Праўда, міністр замежных справаў Іван Антановіч выказаў надзею, што з прэзідэнтам РБ магчыма сустрэнецца хто-небудзь з кіраўніцтва ФРГ. Але, па словах Антановіча, нямецкія прававрадыкалы і беларуская апазіцыя ціснуць на афіцыйны Бон, каб не дапусціць такой сустрэчы. Выходзіць, нашая апазіцыя настолькі магутная, што можа паўплываць нават на Гельмута Коля.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ

### Цэны растуць

**За апошні тыдзень істотна выраслі цэны на многія тавары.**

Напрыклад, кошты свініны на рынках выраслі на 6% і перавысілі 200 тысячаў рублёў), цукру — на 8% (з 25 да 27 тыс.), алею — на 14% (з 47 да 53,5 тыс.). Бульба падаражэла на 15%, і кошт элітных гатункаў дасягнуў 35 тысячаў рублёў, памідоры — на 12%, бананы, яблыкі, апельсіны — на 8-10%. Кошты імпартных цыгарэтаў выраслі ў сярэднім на 10%. Аднак бясспрэчным лідэрам па падаражэнні сталі свежыя агуркі беларускай вытворчасці: нягледзячы на тое, што на двары вясна і павінна быць сезоннае зніжэнне цэнаў, за апошні тыдзень сярэдні кошт агуркоў павялічыўся амаль на 50%, а за апошнія паўмесяца — на 73%.

### «Вертыкаль» замініравалі

**Гродзенскі аблвыканкам у мінулы панядзелак працаваў толькі да абеду, а ўсю другую палову дня сапёры шукалі тут бомбу.**

Васьміпавярховы будынак адміністрацыі быў ачэплены міліцыяй. Супрацоўнікаў «вертыкалі» эвакуявалі. Пошукі мелі поспех — сапёры знайшлі падазроную скрынку з прымацаваным да яе калькулятарам. Увечары яе вывезлі за горад і знішчылі.

С.М.

### Генерал і ягоная каманда на лаве падсудных

**Ваенны суд мінскага гарнізона пачаў разгляд крымінальнай справы супраць групы вайскоўцаў.**

На лаву падсудных трапілі адзін генерал, два падпалкоўнікі, пяць маёраў і капітан. Усе яны служылі на вайсковай базе ў Коласаве непадалёк ад Мінска. Да канца 1992 года гэтая база абслугоўвала расійскія ядзерныя ракеты. Пасля іх вываду з беларускай зямлі ў Коласаве засталося шмат абсталявання, якое ўтрымлівала каштоўныя металы. Вайскоўцы пачалі выплаўляць золата, плаціну, алюміній і нелегальна прадавалі каштоўныя металы. Калі іх «накрылі», двое «падзельнікаў» уцяклі і дагэтуль знаходзяцца ў вышуку, а тыя, хто папаўся, могуць сесці за краты на тэрмін ад 8 да 15 гадоў.

Мікола ВАЙТОВІЧ




## Жыццё ў крэдыт

**Жыццё ў крэдыт — нармальная з'ява, так вядуць свае бюджэты людзі ва ўсіх цывілізаваных краінах. Калі няма ў кішэні патрэбнай вялікай сумы — яе пазычаюць у банку.**

### Вузкае кола

Некалькі гадоў таму, калі ў Беларусі інфляцыя пераганяла ўсіх алімпійскіх спрынтэраў, марай многіх людзей быў крэдыт Ашчаднага банка. Такія крэдыты выдаваліся на будаўніцтва жылля і на «спажывецкія патрэбы» — набыццё мэблі, тэлевізараў і г.д. Высокі ўзровень інфляцыі рабіў крэдыты вельмі выгаднымі — аддаваць (у пераліку на долары) трэба было суму ў некалькі разоў меншую.

З цягам часу інфляцыя крыху зменшылася, банкі паразумнелі, падвысілі працэнты, і бум скончыўся. Але ж патрэба ў грошах засталася. І сёння існуе магчымасць атрымаць даволі выгадную банкаўскую пазыку.

У Беларусі шмат банкаў — амаль 30 штук. Але крэдытуюць індывідуальных кліентаў толькі адзінкі — напрыклад, Мінсккомплексбанк, Беларусбанк. Астатнія выдаюць крэдыты пераважна толькі сваім супрацоўнікам. Разам з тым рынак гэты перспектыўны, і, на думку спецыялістаў, кола такіх банкаў будзе паступова пашырацца. На сённяшні дзень самыя магутныя пазіцыі мае акцыянерны ашчадны Беларусбанк. Фактычна, калі лічыць па сумах крэдытаў, ён з'яўляецца манапалістам.

### Варыянты манапаліста

Цяпер у Беларусбанку прапануюць амаль два дзесяткі крэдытаў. Яны выдаюцца на розных умовах і па розных працэнтных стаўках.

Перш за ўсё крэдыт можна атрымаць **на будаўніцтва, набыццё і рэканструкцыю жылых дамоў і кватэр**. Працэнтная стаўка тут складае па сённяшнім часе 28,6 % гадавых, тэрмін — да 15 гадоў. На рамонт дома грошы пазычаюць даражэй — пад 30% гадавых на 5 гадоў. Пад 45% гадавых можна атрымаць грошы пад будаўніцтва, набыццё або капітальны рамонт **садовых домікаў**. Яшчэ даражэй (відаць, гэта расцэньваецца як «прадмет раскошы») будзе каштаваць **гараж** — крэдыт дадуць пад 48% гадавых на 5 гадоў. Дарэчы, крэдытныя сродкі не могуць перавышаць 75% ад агульнага кошту, так што 25% вы павінны загадзя мець у сваёй кішэні.

Сярод самых танных (усяго 20% гадавых) — крэдыт на **лячэнне дзяцей і дарослых**, як правіла гэта грошы на набыццё санаторнай пуцёўкі. Але неабходнасць у такім крэдыце трэба пацвердзіць медычным заключэннем. Да таго ж банк выдае на гэтыя патрэбы не больш за 100 мінімальных заробкаў і на адносна кароткі тэрмін — 1 год. Таму трапіць на Кіпр за кошт банкаўскай пазыкі не ўдасца. Калі ж лячэнне не дапамагае або ўжо не патрэбнае, то без абмежавання сумы і пад тыя ж 20% выдаецца крэдыт на **рытуальныя паслугі** — пахаванне, устаноўку надмагільнага помніка.

*(Працяг на стар.4)*

## Заслужаныя казакі Беларусі

**Пазаўчора ў Мінску адкрыліся Дні культуры Краснадарскага краю. Да пятніцы кубанцы будуць весяліць жыхароў беларускай сталіцы сваімі спевамі, танцамі і мастацкімі творамі.**

У панядзелак прэзідэнт Лукашэнка прыняў «чырвонага» губернатара Краснадарскага краю Мікалая Кандрацёнку са світай. Разам з губернатарам у Мінск прыехала «агітбрыгада» кубанскіх казакаў: кубанскі казачы хор, ансамбль рускай песні і музыкі, ансамблі казачай песні «Крыніца» і «Кубанцы», а таксама дзве выставы работ кубанскіх мастакоў.

Расійскім гасцям заўсёды рады ў Беларусі. Асабліва — калі ў гасцей такая ж неабсяжная славянская душа, як і ў беларускага прэзідэнта. Для такіх гасцей не шкада нічога. І Аляксандр Рыгоравіч не пашкадаваў: сваім указам ён прысвоіў ганаровае званне «Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь» удзельнікам ансамбля казачай песні «Кубанцы».

Дні Краснадарскага краю ў Беларусі скончацца ў пятніцу гала-канцэртам беларускіх і кубанскіх артыстаў. Магчыма, што на канцэрт завітае і лепшы сябра кубанцаў — Аляксандр Лукашэнка. І тады мы пабачым новую версію славутага танца — «казачок па-прэзідэнцку».

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

### *Войска*

**З двухдзённым візітам у Беларусі знаходзіцца ваенная дэлегацыя Таджыкістана на чале з міністрам абароны генерал-лейтэнантам Шэралі Хайрулоевым. Прайшлі перамовы сам-насам Ш.Хайрулоева і міністра абароны Беларусі генерал-палкоўніка Аляксандра Чумакова. Чакаецца, што па выніках візіту будуць падпісаныя міжурадавыя пагадненні ў галіне ваеннага і ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Таджыкістанам, дзе толькі нядаўна прыпынілася шматгадовая грамадзянская вайна.**

### *Клопаты*

**Магілёўская пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па фактах з'яўлення ў грамадскіх месцах горада надпісаў палітычнага характару. Апошнія паўгода сцены дамоў і падземных пераходаў у Магілёве сістэматычна распісваюцца лозунгамі «Жыве Беларусь!», «Свабоду палітзняволеным», «Свабоду тэлебачанню», «Свабоду Севярынцу» і інш. Спробы міліцыі звязаць з'яўленне надпісаў з дзейнасцю мясцовай арганізацыі Маладога Фронту пакуль вынікаў не далі.**

### *Метро*

**На будаўніцтва Мінскага метрапалітэна вырашана пералічыць 60% сродкаў, атрыманых у сталіцы ад суботнікаў 11 і 18 красавіка. Сума пакуль не называецца.**

### *Планы*

**«МакДональдс» плануе ў кастрычніку гэтага года адчыніць у Мінску свой шосты рэстаран. Ён будуецца на вуліцы Няміга.**

# Лепшыя аўтамабілі на сцэне і на трасе

**24 красавіка пачынаецца Мінскі міжнародны аўтасалон «М.М.А.–98».**

Мерапрыемства ладзіцца ўжо пяты раз і абяцае быць самым маштабным шоу з усіх тых, што праводзіліся раней: у ім бяруць удзел 116 кампаніяў, якія гандлююць аўтамабілямі і аўтамабільнымі аксесуарамі. На выставе будуць прадстаўленыя буйныя экспазіцыі аўтамабіляў *Opel, Volkswagen, Audi, Mazda, Renault* і інш.

Упершыню аўтасалон праводзіцца адразу на дзвюх пляцоўках — у залах Нацыянальнага выставачнага цэнтра «Белэкспа» па вул. Купалы, 27 (былая ВДНГ) і пр. Машэрава, 14 (выставачны комплекс «Мінскэкспа»). Агульная плошча выставы — 8.000 квадратных метраў, што таксама можна лічыць рэкордам. Па словах арганізатараў аўтасалона, на сённяшні дзень у Мінску няма такой выставачнай залы, дзе хапіла б месца для ўсіх удзельнікаў «М.М.А.», таму было вырашана падзяліць экспазіцыю на дзве роўныя часткі. Між дзвюма пляцоўкамі будуць курсаваць спецыяльныя аўтобусы, таму, мяркуюць арганізатары, наведвальнікі не адчуюць дыскамфорту.

Гісторыя Мінскага міжнароднага аўтасалона пачалася ў 1992 годзе, калі кампанія *Sego P + S* правяла аўташоу «Мінскаўта–92». Яна прадставіла менчукам 28 легкавікоў, сярод якіх былі (упершыню ў Беларусі) *Opel Frontera* і *Mercedes-600*, а таксама матацыкл *Harley–Davidson*. У 1993 годзе аўтасалона не было, а вось у 1994 тыя самыя людзі, што праводзілі «Мінскаўта», наладзілі першы Мінскі міжнародны аўтасалон «М.М.А.–94». З таго часу «М.М.А.» праводзіцца штогод. Арганізатары сцвярджаюць, што з кожным годам колькасць наведвальнікаў павялічваецца, а ўзровень выставы павышаецца.

Сёлета падчас аўтасалона пройдзе конкурс па фігурным кіраванні аўтамабілямі на «Кубак *Mobil*'98». Першы этап конкурсу ўжо адбыўся 12 красавіка, а другі стартуе 26 красавіка побач з выставачным комплексам «Мінскэкспа». У спаборніцтве возьмуць удзел прадстаўнікі фірмаў, што гандлююць аўтамабілямі, прафесійныя спартсмены–аўтагоншчыкі і журналісты. Яны прадэманструюць гледачам усе магчымасці тых самых легкавікоў, што выстаўляюцца на «М.М.А.–98». Такім чынам, машыны можна будзе пабачыць і ацаніць не толькі «на подыуме», але і «ў жыцці».

На наступны год арганізатары «М.М.А.» абяцаюць яшчэ больш цікавую падзею: ужо падпісанае пагадненне з нямецкай выставачнай кампаніяй *Messe Frankfurt* аб правядзенні ў Мінску ў 1999 годзе сумеснага аўтасалона «М.М.А.–*Automecanica*». Арганізатары спадзяюцца, што нямецкі партнёр прывабіць у Мінск тыя сусветна вядомыя фірмы, якіх пакуль не здолеў запрасіць беларускі бок.

А сёлета аўтасалон адчыніцца для наведвальнікаў а 10 гадзіне раніцы 24 красавіка. Кошт квітка — 100 тысячаў рублёў, па ім можна ўвайсці ў абедзве выставачныя залы. Дзіцячых квіткоў няма, затое ёсць «сямейныя»: заплаціўшы 200 тысячаў рублёў, двое дарослых могуць правесці з сабой дваіх дзяцей.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



***Сельскагаспадарчыя землі Беларусі з года ў год страчваюць урадлівасць з прычыны эканамічных цяжкасцяў у аграрным комплексе. Па словах старшыні Дзяржаўнага камітэта па зямельных рэсурсах Георгія Кузняцова, сёння ў глебу ўносіцца мінеральных угнаенняў удвая менш, чым у 1990 годзе; практычна зусім не ўносіцца арганіка. З 1975 па 1996 год плошча сельскагаспадарчых земляў у Беларусі зменшылася на 488,2 тысячы гектараў, гэта азначае, што кожны год з вытворчасці выбывала больш як 23 тысячы гектараў. Па прыведзеных звестках, з 9.332,7 тысячы гектараў сельгасзямель інтэнсіўна выкарыстоўваюцца 8.555,9 тысячы.***

# На праспекце Машэрава будзе вежа

**Міністэрства сувязі прадоўжыла да 10 чэрвеня тэрмін прыёму заявак на ўдзел у тэндэры, пераможца якога стане падрадчыкам будаўніцтва новай радыётэлевізійнай вежы ў Мінску.**

На сённяшні дзень тэндэрныя дакументы закупілі і рыхтуюць прапановы пятнаццаць кампаніяў, з якіх Беларусь прадстаўляе толькі адна. Згодна з патрабаваннямі, будаўніцтва вежы павінна быць завершанае або напрыканцы 2000, або ў 2001 годзе. Мяркуецца, што тэлевежа вышынёй каля 410 метраў будзе ўзведзеная побач з выставачным комплексам на праспекце Машэрава ў Мінску. Ацэначны кошт праекта — каля 50 млн. долараў ЗША. На вежы, акрамя трансляцыйнай апаратуры, размесцяцца пляцоўка панарамнага агляду і рэстаран; побач будуць пабудаваныя дапаможныя памяшканні.

Плануецца, што значная частка работ будзе выконвацца беларускімі субпадраднымі арганізацыямі. Па словах спецыялістаў, неабходнасць будаўніцтва ў Мінску новай радыётэлевізійнай вежы тлумачыцца тым, што тэлевежа ў раёне пасёлка Калодзішчы пад Мінскам практычна выпрацавала свой рэсурс і тэхналагічна састарэла. Новая тэлевежа дазволіць забяспечваць тэлевізійнае вяшчанне на дзесяці каналах і дасць магчымасць ажыццявіць яшчэ шэраг радыётэхналагічных навінак.

*БелаПАН*

# Міліцыя любіць маладых

**На мінулым тыдні мінская міліцыя ўзбудзіла яшчэ адну крымінальную справу, у якой фігуруе Малады Фронт, — «па факце злоснага хуліганства», нібыта дапушчаным дэманстрантамі пасля святкавання ў Мінску 80-й гадавіны БНР.**

Нагадаем, што ў той дзень пасля заканчэння дазволенага ўладамі мітынгу апазіцыі невялікая група моладзі спрабавала наладзіць шэсце па праспекце Скарыны. Каля цырка дарогу ім перагарадзіў кардон спецназа, у бок якога нехта кінуў дымавую шашку. Справу вядзе следчы Цэнтральнага РАУС Мінска Андрэй Кучма; па арт.201 ч.2 Крымінальнага кодэкса прадугледжана пакаранне да пяці гадоў пазбаўлення волі. На допыт у міліцыю ўжо выклікалі некалькі чалавек з кіраўніцтва Маладога Фронту.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# З днём нараджэння!



# Дом літаратара як

## *Праўдзівыя гісторыі з жыцця беларускіх пісьменнікаў*

**Заўтра, 23 красавіка, у сталічным Доме літаратара збяруцца беларускія пісьменнікі на чарговы з'езд. На жаль, будынак ужо не належыць Саюзу пісьменнікаў: з 1 сакавіка ён цалкам перайшоў на баланс адміністрацыі прэзідэнта. І хоць новую шыльду з надпісам "Адміністрацыйны корпус" давялося часова замяніць на старую, але ж гэта не суцяшае.**

**На словах новай гаспадыні "адміністрацыйнага корпуса" Т.Гурко, гэта зроблена дзеля таго, каб «кучка пісьменнікаў-нацыяналістаў не прыйшла ў адчай». Паўсюль распачалі касметычны рамонт. Кавярню спрабуюць ператварыць у «элітную». Славутую назву "Тарас на Парнасе" змянілі на «Кафе «Георгиевское», — напэўна, для прыёму георгіеўскіх кавалераў з Расіі. А будынак палiклінікі рыхтуюць для перадачы ў карыстанне братам-славянам з Балгарыі.**

Пра тое, як ведамства Ціцянкова вырашыла прыбраць да рук Дом літаратара і што ў гэты час рабіла (або не рабіла) кіраўніцтва СП, у газетах пісалася шмат, але пытанне так і засталося нявысветленым. Варта звярнуцца да ранейшай гісторыі арганізацыі, якая месціцца на вул.Фрунзэ, 5.

Ідэя стварэння Саюза пісьменнікаў узнікла ў бальшавікоў на пачатку 30-х. Мэта — простая: сабраць пад адным дахам «раз'яднаных па ідэйных і палітычных прынцыпах літаратараў». Галоўным стваральнікам і непасрэдным кантралёрам выступіла ЦК партыі. Сталінскія часы адышлі ў нябыт, забраўшы жыцці соцень беларускіх літаратараў, але ўплыў і кантроль з боку кампартыі і пасля таго не паменшыўся — ён набыў новыя формы. Доўгія гады захоўваўся прынцып «пугі і цукеркі». Знакаміты Галоўліт вырашаў, каму і што друкаваць. А ідэолагі ад ЦК КПБ — каму і як кіраваць. Пісьменнікам, у якіх мастацкія і ідэалагічныя перакананні разыходзіліся з прынцыпамі ЦК, даводзілася пісаць «у стол». Праглядаючы гісторыю беларускай літаратуры, можна сказаць, што такіх пісьменнікаў было не вельмі шмат. Але былі.

Доўгія часы праўленне Саюза пісьменнікаў засядала ў будынку па вуліцы Энгельса, якраз побач з ЦК КПБ. Будынак захаваўся і пасля вайны, хоць падчас нямецкай акупацыі мінскія падпольшчыкі зрабілі спробу ўзарваць будынак разам з гаўляйтэрам Кубэ. Кубэ загінуў, а будынак пасля вайны праіснаваў больш як чвэрць стагоддзя. Калі ЦК партыі вырашыў пабудаваць сабе новы корпус, той двухпавярховы дом, помнік гісторыі, нягледзячы на пратэсты, узарвалі. А ў замен старога ў 1976 г. быў узведзены новы будынак Дома літаратара — па вуліцы Фрунзэ, 5. Варта адзначыць, што для тых часоў архітэктура і інтэр'ер Дома адпавядаў прыстойнаму ўзроўню — більярдная, кавярня, утульныя кабінеты, камінная зала...

Большасць пісьменнікаў тады палічыла, што новы будынак — падарунак ад клапатлівага бацькі Пятра Міронавіча Машэрава за вялікія дасягненні ў развіцці беларускай літаратуры.

Тым часам пад пільным кантролем кампартыі розныя службы Саюза пісьменнікаў распачалі працу на новым месцы. Дом літаратара ладзіў літаратурныя сустрэчы, мастацкія вечарыны, банкеты. Літфонд займаўся дабрабытам пісьменнікаў. А сакратарыят СП — арганізацыйнымі пытаннямі і прыёмам новых членаў. Стабільна працавала Бюро прапаганды мастацкай літаратуры: аб'яднаўшыся ў невялікія групы, пісьменнікі ездзілі па калгасах і заводах рэспублікі, школах і вайсковых частках, дзе падчас абедзенных перапынкаў і спецыяльных вечарын знаёмілі публіку з літаратурнымі здабыткамі. Для некаторых пісьменнікаў гады застою былі сапраўды цудоўнымі гадамі. Як узгадваў на сваім 75-м юбілеі адзін класік, былы сакратар Саюза пісьменнікаў, тады ён мог дазволіць сабе зрабіць шыкоўны банкет і пагрэць косткі на паўднёвым сонейку.

Але ж так не магло цягнуцца бясконца. Маладыя літаратары не жадалі мірыцца з пазіцыяй кіраўніцтва Саюза ні ў літаратуры, ні ў грамадстве. У 1988 г. стварылася альтэрнатыўнае Саюзу пісьменнікаў літаб'яднанне «Тутэйшыя». І гэта, бадай, самая значная літаратурная падзея апошняга дзесяцігоддзя, якая адбылася ў гэтых сценах.

Пуга ў старых руках ідэолагаў спрацоўвала ўжо кепска. Але ж засталіся яшчэ цукеркі ў выглядзе жылля, пасады ў апараце Саюза і рэдакцыях часопісаў, месца на старонках выданняў. Пайшла мода на раскрыццё маладых талентаў. Пры гэтым узрост не ўлічваўся: малады літаратар мог быць і 50-гадовы. Кожны «класік» імкнуўся прыдбаць годнага вучня і паслядоўніка. Гэты працэс працягваўся ніядоўга — відаць, скончыліся цукеркі. Інакш бы беларускую літаратуру па «раскрытых талентах» можна было б лічыць самай геніяльнай у свеце.

Але ж і цукеркі дзяліліся не пароўну. Некаму дасталіся карамелькі, г.зн. толькі членства ў СП: моўчкі смакчы і цешся тым, што ты апынуўся ў кагорце вялікіх пісьменнікаў. Некаму перапалі шакаладныя — кватэра, пасада і г.д. Маючы магчымасць прылюдна выступаць, таленавіты паэт Анатоль Сыс абвесціў сябе духоўным сынам Янкі Купалы і братам Максіма Багдановіча і неўзабаве са «старымі класікамі» перайшоў на «ты». Але ж за кватэру Сысу давялося пазмагацца: ёсць сведкі, што ён нават пагражаў дырэктару Літфонду сп.Вільтоўскаму фізічнай расправай.

Нездоўга да чарговага з'езда Саюза пісьменнікаў у 1989 годзе адбыўся агульны сход. У тыя

*За кулисами Кремля*

# Кого там вышлют из страны? И куда?

Как известно, в минувшую пятницу Госдума РФ вновь отвергла кандидатуру Сергея Кириенко на пост премьер-министра России. Согласно российской Конституции, у ельцинского протеже остался третий и последний шанс, чтобы возглавить правительство. У Думы, в свою очередь, — последний шанс остаться Думой.

Между тем, на фоне острого правительственного кризиса и непрекращающейся войны президента и Думы из кратковременного политического небытия вновь всплыла фигура Бориса Березовского. Этот влиятельный российский бизнесмен и теневой политик ведет, по утверждению российских СМИ, свою собственную игру, которой Ельцин, мягко говоря, недоволен.

По большому счету, крупнейший нефтяной и масс-медиамагнат Б.Березовский, занимавший в недавнем прошлом пост заместителя секретаря Совета безопасности РФ, из высших сфер никогда и не выпадал. Потеря официального статуса (к которой в свое время приложил руку А.Чубайс) не стала для него ударом, а лишь переместила его из области официальной в теневую — кстати, для него более привычную и близкую. Что бы ни говорили его явные и тайные противники, представить сегодня большую российскую политику без Березовского уже невозможно.



*Борис Березовский — себе на уме.*

Явными преимуществами Б.Березовского как теневого политика являются контроль над целым рядом влиятельных российских СМИ (ОРТ, ТВ-6, «Независимая газета») и обширные — вплоть до непосредственного окружения президента — личные связи. Все это плюс огромный финансовый капитал дает ему практически неограниченные возможности для оказания давления на власть имущих. Им это, естественно, не нравится.

На днях российская газета *КоммерсантЪ-Daily* обнародовала информацию, не предназначенную для рядовых россиян. Согласно утверждениям газеты, ссылающейся на источники в правительстве, Ельцин при закрытых дверях в весьма резкой форме пригрозил Б.Березовскому высылкой из страны в случае, если он не прекратит интриговать и давить на формирование нового правительства.

Поводом для президентского гнева стали предпринятые Березовским усилия по продвижению на пост премьера не С.Кириенко, а бывшего шефа Бориса Абрамовича в Совбезе — Ивана Рыбкина. Кроме того, не исключено, что именно с действиями Березовского связана и недавняя инициатива лидера НДР А.Шохина. Напомним, что Шохин предлагал внести изменения в Конституцию, согласно которым в случае недееспособности президента его функции перенимает не премьер, а председатель Совета Федерации. В этом случае временным главой государства мог бы стать близкий друг Березовского — Егор Строев.

Впрочем, самого Березовского ельцинские угрозы о ссылке (изгнании, выдворении и т.п.) вряд ли испугали. В отличие от президента, являющегося политиком официальным, Березовский как теневик обладает гораздо большими возможностями для маневра. Да и помоложе он. И, наверно, побогаче.

**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

*Эстония*

## «Американского» генерала хотят посадить в тюрьму

**Таллиннский городской суд рассматривает дело бывшего командующего Силами обороны Эстонии Александра Эйнсельна, которому инкриминируют торговлю оружием.**

Генерал Эйнсельн обвиняется в том, что незаконно выдавал своим подчиненным в Генеральном штабе Сил обороны Эстонии разрешения на покупку в Финляндии партий стрелкового оружия. В Эстонии стволы продавались незаконно, и часть из них попала в руки преступного мира. Полиция раскрыла уже несколько уголовных дел, в том числе и убийств, в которых использовались доставленные с позволения Эйнсельна аргентинские пистолеты FM. А один пистолет был обнаружен у чеченцв, которого считают лидером здешней группировки.

А.Эйнсельн, который постоянно напоминает о своей службе в рядах армии США, считает начатый против него процесс политическим фарсом. Он обвиняет эстонские спецслужбы в нарушении его гражданских прав. А заодно утверждает, что ни один прокурор в Эстонии не способен юридически грамотно сформулировать обвинение.

*Литва*

## Девочку украл полицейский

**В конце прошлой недели в Каунасе с целью получения выкупа была похищена 10-летняя девочка.**

Преступники поджидали жертву возле ее дома. Когда четвероклассница Аушра возвращалась из школы, ее засунули в автомобиль и попытались вывезти из города. К счастью, мама своевременно забила тревогу, а соседи заметили несколько часов торчавшую у дома машину и даже видели, как преступники схватили кричащего ребенка.

Молодые люди явно не учли природную смышленость детей. В автомобиле девочка притворилась, что потеряла сознание сразу после того, как ей попытались засунуть в нос какое-то средство. Поэтому ей удалось избежать наркоза, и при первой же возможности она улизнула от похитителей.

Криминалисты быстро задержали одного из похитителей — как раз в день преступления ему исполнилось 19 лет. Он подтвердил, что ребенка похитили с целью выкупа. Второй преступник — 22 лет, закончил один курс полицейской академии и успел поработать в нескольких подразделениях полиции. Задержать его пока не удалось.

*Латвия*

## В «окнах» забрезжил свет. Но Россия его не заметила

**Латвийский парламент будет рассматривать (и вероятнее всего, примет) поправки к Закону о гражданстве. Однако это вряд ли изменит отношение России к Латвии.**

Как заявил в интервью агентству Интерфакс чиновник российского МИДа, «даже если поправки будут приняты, это не снимет озабоченности Москвы по поводу положения соотечественников в Латвии». Россия не видит того, чего не хочет видеть — конкретных шагов по улучшению положения неграждан в Латвии. Расширение так называемых «окон натурализации» даст возможность очень многим жителям Латвийской Республики стать ее полноправными гражданами. Но...

Вот и губернатор Омской области Леонид Полежаев обратился к согражданам с призывом бойкотировать торговые операции с Латвией. А призывы губернаторов в России бизнес-народ игнорировать не привык. Речь прежде всего идет о 80 тысячах тонн нефтепродуктов, отправляемых через Вентспилсский порт, где 80% работников — «русскоязычные».

**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

# люстэрка Саюза пісьменнікаў

У 1990 г. на з'ездзе пісьменнікаў, які ў апошні раз пампезна праходзіў у Палацы прафсаюзаў, давялося змяніць кіраўніцтва (гэтага патрабаваў Статут). Пісьменнікі-пенсіянеры, якіх была большасць, вырашылі не дапусціць у кіраўніцтва Саюза «нацыяналістычна настроеных літаратараў», а тым больш «новых буржуа» (Будзінаса, Дударава, Някляева). Старшынём Саюза стаў Васіль Зуёнак: ягоная кандыдатура больш-менш задаволіла ўсіх.

Перабудова і галоснасць, распачатыя ў Маскве, даляцелі і да беларускіх літаратараў. Частка пісьменнікаў дэманстратыўна пакідала шэрагі кампартыі. Нарэшце адкрыта сталі абмяркоўваць праблемы мовы. Нават аргкамітэт БНФ нейкі час месціўся ў будынку Саюза пісьменнікаў. У Доме літаратара распаўсюджвалася самвыдатаўская літаратура. Варта прыгадаць, што, будучы кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, сюды наведваўся і А.Лукашэнка. Можа, якраз у тыя часы вясковага хлопца настолькі ўразіла архітэктура і інтэр'ер будынка, што, стаўшы прэзідэнтам, ён вырашыў прыбраць яго да сваіх рук.

Заяўкі на творчыя сустрэчы з пісьменнікамі спыніліся. Прадпрыемствы і ўстановы пачалі лічыць капейку, і слухаць платныя выступленні пісьменнікаў асаблівага жадання не ўзнікала. Зарабляць грошы ў новых умовах не навучыліся, і першым да заняпаду прыйшло Бюро прапаганды мастацкай літаратуры.

Нічога не змянілася і пасля наступнага з'езда ў 1994 года, які сціпла праходзіў у зале Дома літаратара: у пісьменнікаў былі сур'ёзныя матэрыяльныя цяжкасці. Сродкаў на ўтрыманне будынка і патрэбы кіраўніцтва катастрафічна не хапала, у ход пайшла здача памяшканняў у арэнду. Напачатку гэта былі арганізацыі, утвораныя пісьменнікамі, яны займаліся пераважна выдавецкай дзейнасцю. Але ж сарваць вялікі куш з калегаў па пяру, як таго хацелася адміністрацыі, не атрымалася. Таму з імі пасяшаліся развітацца, а на іх месцы прыйшлі «крутыя» камерсанты. Удзень Дом літаратара пачаў нагадваць гандлёвую біржу.

Але ж бяздарна складзеныя дырэкцыяй Дома літаратара доўгатэрміновыя дамовы (без уліку інфляцыі) станоўчых вынікаў не далі. Нават утворанае малое прадпрыемства «Золак» становішча не палепшыла: вельмі цяжка было весці канкурэнтную барацьбу на выдавецкім рынку. Але ж трэба быць справядлівымі — хоць асаблівай фінансавай падтрымкі не паступала, станоўчыя зрухі ў духоўным жыцці былі відавочныя: Дом літаратара шырока расчыніў дзверы для прыхільнікаў беларускай культуры. Тут праходзілі з'езды і сходы ТБМ, засядалі бацькоўскія камітэты беларускамоўных школаў і г.д.

У 1994 г. у Беларусі з'явіўся першы прэзідэнт. Усе лепшыя пачынанні ў Доме літаратара затармазіліся. На жаль, і тут не абышлося без памагатых з боку пісьменнікаў: варта ўзгадаць штодзённую агітацыю напярэдадні рэферэндуму 1995 года ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, калі сярод літаратараў знайшліся актыўныя прыхільнікі двухмоўя.

Пасля таго, як у залу Дома літаратара пусцілі апазіцыйных дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання, прэзідэнт вырашыў канчаткова разабрацца з «рассаднікам зла». Методу барацьбы ён абраў даволі простую — загнаўшы адміністрацыю ДЛ у непасрэдную фінансавую залежнасць. Былі б на гэты момант у кіраўніцтве СП прынцыповыя і заможныя людзі (а такія сярод пісьменнікаў ёсць), — усё магло б быць інакш.

Але ж і Рыгоравіч ведае, як у патрабны момант зрабіць шырокі жэст. У цяжкія для краіны часы ён падараваў жылы дом той творчай інтэлігенцыі, якая, на ягоную думку, ужо ўнесла свой плён у пабудову новага грамадства (як гэта зрабіў рэжысёр Азаронак), і тым, хто яшчэ гэтаму паспрыяе. Пісьменнікам з прэзідэнцкага пірага дасталося аж 18 кавалкаў: ад аднапакаёвай кватэры да чатырохпакаёвай. З'елі толькі 16, а дзве прэзідэнт пакінуў для будучых творцаў.

Безумоўна, адмовіцца ад дармовага ў наш час не кожны змажа. Нават празаік, які высмейваў прэзідэнта ў аповесці пра карову Рабуньку, і паэт, які з гонарам пісаў пра грамадзянскую годнасць Ларысы Геніюш, гэтага не зрабілі. Зрэшты, іх у гэтым нельга абвінавачваць. Рэч у іншым: ці этычна з боку прэзідэнта рабіць такія падарункі? Чым лепшы пісьменнік ці супрацоўнік Дома літаратара за добрага лекара ці настаўніцу?

Пакуль дзялілі кватэры, прэзідэнт выдаў распараджэнне, у якім паведамлялася, што будынак па вуліцы Фрунзе, 5 неабходна на працягу двух месяцаў перадаць на баланс адміністрацыі прэзідэнта. Калі зразумелі, што прэзідэнт ад задуманага не адмовіцца, пачалі прымаць адпаведныя захады. Старшыня СП В.В.Зуёнак склікаў прэс-канферэнцыю журналістаў, каб выклікаць рэзананс у грамадстве. Набраўшыся мужнасці, Васіль Васільевіч паведаміў прысутным, што справа гэтая палітычная і ў нас збіраюцца адабраць адзін з апошніх «астраўкоў беларускасці». «Мы людзі культурныя і збіраемся вырашаць гэтае пытанне цывілізаваным шляхам», — сказаў Зуёнак. Судовыя працэсы з адміністрацыяй прэзідэнта карысці не прынеслі. Але ж было патрачана амаль 100 млн. рублёў, якія, цяпер, напярэдадні з'езда, катастрафічна не хапае Саюзу.

Вырашылі паспрабаваць пікетаванне. Акцыя атрымалася нешматлюднай. Пісьменнікам, якія займаюць дзяржаўныя пасады, «засвечвацца» лішні раз небяспечна. А тым, хто атрымлівае прэзідэнцкія падарункі, браць удзел у пікеце, мусіць, не дазваляе сумленне. Прыйшлі некалькі ўплывовых пісьменнікаў на чале з Генадзем Бураўкіным, у якіх да рэжыму Лукашэнкі сваё прынцыповае стаўленне. Дый плакат *«Фрунзе, 5 не аддаваць, не ляжаць на пузе, а за Фрунзе ваяваць, як таварыш Фрунзе»* выглядаў недарэчным, — хутчэй за ўсё яго пісаў недасведчаны літаратар. Народ чамусьці не падтрымаў духоўных карміцеляў. Можа, таму, што ежа, якую прапаноўвалі доўгія гады пісьменнікі, была часткова атручанай.

Аўвогуле, тое, што адбылося з Домам літаратара, — гэта проста адмыванне грошай на дзяржаўным узроўні. Мінфін фінансуе Саюз пісьменнікаў, а тыя, у сваю чаргу, плацяць грошы за арэнду памяшкання на рахункі прэзідэнцкай адміністрацыі. Кожны крок пад кантролем.

Цяпер, перад з'ездам, сітуацыя зусім няпэўная. Пісьменніцкія анкеты, якія друкаваў ЛіМ, засведчылі, што ніякай стройнай пазіцыі літаратары не маюць. Няма яснай канцэпцыі існавання і развіцця творчага саюза. Цалкам верагоднымі выглядаюць чуткі, што на з'ездзе ўлады хочуць канчаткова падзяліць пісьменнікаў на «чэсных» і «нячэсных» — з усімі відавочнымі наступствамі.

І ўсё ж такі ёсць сярод амаль 500 членаў СП пісьменнікі, якія мелі і не страцілі сумленне і годнасць. Яны выкажуць на з'ездзе нязгоду тым, хто працуе на рэжым. І яны павінны перамагчы.

**Мікола КАЧАН**

часы старшынём праўлення СП быў славуты паэт Максім Танк, але ж кепскае здароўе і вельмі паважны ўзрост не дазвалялі яму практычна кіраваць Саюзам, і ўся ўлада была сканцэнтраваная ў руках першага сакратара Ніла Сымонавіча Гілевіча. На агульным сходзе некаторыя адкрыта выступілі супраць «вялікага сябра ўсіх славян», абвінавачваючы Гілевіча ў тым, што ў яго «доўгія рукі», што ён усімі сіламі трымаецца за крэсла. Асаблівая эмацыянальныя наступы на кіраўніка зыходзілі ад жанчын-пісьменніц. У апраўданне Ніл Сымонавіч вымавіў тады: «Хто сказаў, што ў Гілевіча доўгія рукі?» Пры гэтым ён распрасцёр рукі і пільна ўтаропіўся ў залу.

Ніл Гілевіч — мужчына магутнай паставы, і рукі ў яго былі сапраўды даволі доўгія. Абураны паэт пакінуў сцэну. У фае, незаўважна для шырокай публікі, ён пасля сказаў: «І хто мог падумаць, што я трымаюся за крэсла? Па мне дык няхай гэты дом г... запльве».

На другі дзень, калі пісьменнікі і іх жонкі прыйшлі ў стол заказаў, каб набыць харчовы паёк, заўважылі, што стол заказаў не працаваў, а ў памяшканні Дома літаратара стаяў смурод: на першым паверсе прарвала каналізацыю. Тады на гэта ніхто не звярнуў асаблівай увагі. Прайшло няпоўных дзесяць гадоў, і ўжо новаму кіраўніцтву давялося змагацца з выграбанparam дзярма — і ў прамым, і ў пераносным сэнсе. На жаль толькі, рукі ў іх аказаліся каратакаватыя.

# Жыццё ў крэдыт

(Пачатак на стар. 1)

Нядорага — у 24% гадавых — абыдзецца вельмі цікавы і неабходны для многіх бацькоў крэдыт на **навучанне** — у платных навучальных установах, на курсах, у рэпетытараў. Ён можа быць выдадзены ў памеры да 70% ад кошту навучання на тэрмін да 1 года. На тых жа ўмовах — 24% на 5 гадоў — дадуць і крэдыт на **набыццё свойскай жывёлы**: каровы, каня, свіней, авечак — але не пародзістых сабак і не экзатычных кракадзілаў. Заўважце, што грошы даюць безнаяўныя, таму купіць рагулю на базары вам таксама не ўдасца.

Існуе шмат відаў крэдытаў на так званыя **неадкладныя спажывецкія патрэбы**. Тут можна выбіраць паміж трохмесячным крэдытам пад 30% (да 100 мінімальных заробкаў) і гадавым крэдытам пад 36%, дзе максімальная сума абмяжоўваецца толькі плацежаздольнасцю пазычальніка. Можна атрымаць такі крэдыт і на 5 гадоў, але каштаваць ён будзе даражэй — 45% гадавых, да 500 мінімальных заробкаў.

**Маладым грамадзянам**, якія жывуць асобна ад бацькоў, можна параіць звярнуць увагу на крэдыт на **набыццё хатняй маёмасці**. Ён выдаецца ў памеры да 200 мінімальных заробкаў, на тэрмін да 3 гадоў і па зусім ільготнай працэнтнай стаўцы — 10% гадавых. Адзіная праблема — гэты крэдыт даецца **толькі пад пакупку беларускіх тавараў**: мэблі, халадзільніка, тэлевізара, газавай альбо электрапліты, пральнай ці швейнай машыны, пыласоса.

У крэдыт таксама можна згуляць **вяселле** або правесці нейкую іншую **ўрачыстасць**. Каштуе гэта 36% гадавых на тэрмін да 3 гадоў. Выдае банк і крэдыты на будаўніцтва надворных пабудоваў (30% на 5 гадоў). За кошт банка можна набыць таксама **«сродкі малой механізацыі»** і **аўтамабіль**. Але калі першае разглядаецца як сродак вытворчасці і каштуе яшчэ больш-менш прыстойна — 32% на 5 гадоў, то машына ў нас расцэньваецца як прадмет раскошы (а не сродак перамяшчэння), таму і каштуе пакупка аўтамабіля ў крэдыт ажно 56% гадавых (да 5 гадоў).

## Інфляцыя дапаможа

Браць крэдыты выгадна. Няцяжка падлічыць: за мінулыя 3 месяцы інфляцыя склала каля 3% у месяц — а гэта больш як 60% гадавых. Яшчэ хутчэйшымі былі тэмпы падзення цаны беларускага рубля. Калі ж праанапізаваць дынаміку курсу долара на чорным рынку, то ён склаў нават больш за 100% за год.

Параўнайце лічбы з працэнтнымі стаўкамі — выгада відавочная. Зразумела, што крэдыты, працэнты па якіх набліжаюцца да тэмпаў інфляцыі, «рызыкоўныя». Таму мае сэнс звярнуць увагу на тыя пазыкі, дзе працэнтная стаўка не перавышае 30%.

Актыўна крэдытуе грамадзянаў і Мінсккомплексбанк. Ён прапануе вельмі хуткі сэрвіс — але выдае крэдыты перш за ўсё на набыццё тавараў у вялікіх крамах, і працэнтныя стаўкі ў яго вышэйшыя, чым у Беларусбанку.

## Лыжка дзёгцю

Грошы любяць, каб іх дакладна лічылі. Таму перш чым звярнуцца ў банк па крэдыт, падумайце — ці варта звязвацца.

Па-першае, сума большасці крэдытаў **абмяжоўваецца вашай плацежаздольнасцю**. Яе банк разлічвае з заробкаў крэдытаатрымальніка. Таму чалавек, які афіцыйна не паказвае свае даходы і атрымоўвае ў касе капейкі, не мае шанцаў атрымаць вялікі крэдыт. Максімальны парог плацежаздольнасці — **50% месячнага даходу**. Такім чынам, рэальна атрымаць крэдыт на суму, якая (плюс працэнты) не перавышае 50% вашага даходу за той тэрмін, на які бярэцца крэдыт.

Да таго ж для атрымання крэдыту банк патрабуе **заклад**. Гэта можа быць розная хатняя маёмасць, дом, аўтамабіль і іншае. Кошт закладу звычайна павінен больш як у два разы перавышаць суму крэдыту. Кошт маёмасці вызначаць супрацоўнікі банка.

Беларусбанк, у адрозненне ад іншых банкаў, патрабуе выканання яшчэ некаторых умоваў. У прыватнасці, трэба знайсці **двух паручальнікаў**, чый даход не меншы за даход атрымальніка крэдыту: яны падпішуцца, што ў выпадку цяжкасцяў вернуць грошы.

## Збор папераў

У банк неабходна прадставіць даведку аб сярэднім заробку. Такія ж даведкі патрабуюць на паручальнікаў, а таксама жонку альбо мужа. Таксама ў банк трэба захапіць разліковую кніжку за камунальныя паслугі і квіткі аб аплаце паслуг дзіцячых дашкольных установаў.

Больш дакладна вам усё скажуць у аддзеле крэдытавання фізічных асобаў, які і будзе займацца справай выдачы крэдыту. Такія аддзелы ёсць толькі ў раённых аддзяленнях: па крэдыт трэба звяртацца ў **раённае аддзяленне** Беларусбанка па месцы прапіскі. Выключэнне складаюць толькі жыллёвыя крэдыты: у гэтым выпадку звяртацца трэба ў аддзяленне па месцы будоўлі або набыцця дому ці кватэры.

Працэнты, акрамя асобных крэдытаў, трэба выплачваць ужо адразу пасля атрымання грошай. «Прапіць» крэдыт практычна немагчыма. Наяўныя грошы не выдаюцца, усё афармляецца толькі праз чэкі.

Атрымаць крэдыт пры выкананні ўсіх умоваў будзе няцяжка. Як паведамілі ў Беларусбанку, затрымка можа быць толькі па ільготным крэдыце (пад 10%) для моладзі. Але і ў гэтым выпадку чакаць не давядзецца больш за некалькі тыдняў.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Мужчины и женщины несовместимы

**Еще недавно в Германии уделом женщин были знаменитые три «К» — Киндер, Кирхе, Кюхе (дети, церковь, кухня). Но феминистское движение дало о себе знать, и теперь в гонке за равенством Германия — несомненный лидер в Европе.**




*В своей борьбе за равноправие женщинам несомненно удалось добиться одного: мужчины забыли, что такое галантность, и их знаки внимания часто бывают с подвохом.*

Вот несколько примеров. В школах уже несколько лет преподают новый предмет: равенство полов. Чтобы дети лучше усваивали материал, изданы специальные тетради, в которых упражнения представлены в виде настольной игры. Задаются вопросы типа «Кто готовит у вас дома?», «Кто моет ванну и унитаз?», «Кто больше зарабатывает?». За каждый правильный с точки зрения равенства ответ ученик продвигается вперед, а за неправильный — пропускает ход.

Другой пример — «службы равенства». Если захотите, представитель такой конторы может присутствовать, когда вы нанимаетесь на работу, и проследить, чтобы все было честно и справедливо. Эти службы также следят, чтобы было достаточно городских автобусов не только утром и вечером, когда мужчины едут на службу или обратно, но и днем, когда женщины отправляются за покупками. Сюда же за консультацией нередко обращаются женщины, которые считают, что подвергаются дискриминации.

С недавнего времени на многих предприятиях и в учреждениях появилась отдельная должность — «инспектор по равенству». На автостоянках за женщинами, как правило, закреплены места поближе к сторожу, чтобы защитить их от возможного нападения. И подобных примеров становится все больше.

Из политических партий самыми горячими поборниками равенства полов являются «зеленые». Под их влиянием и другие политические силы ввели минимальные квоты в партийные избирательные списки: 40% женщин у социал-демократов, одна треть — у христианских демократов. А сами «зеленые» на своих съездах бдительно следят, чтобы на трибуну по очереди выходили мужчины и женщины.

Однако, несмотря на всю эту активность, средняя заработная плата немецких женщин составляет только 73% от зарплаты мужчин, а среди руководителей крупных немецких предприятий только 5% носят (или могут носить) юбки.

Известный публицист Хенрик Бродер в журнале «Шпигель» поставил вопрос ребром: совместимы ли мужчины и женщины? И ответил на него прямо — нет, не совместимы! По мнению Бродера, немецкое общество продвигается к апартеиду. Девушки общаются с девушками, юноши вместе занимаются спортом. В городах и деревнях женщины собираются у кого-нибудь дома или в кафе; мужчины тоже не допускают представительниц другого пола в свои стрелковые общества, команды добровольных пожарных и так далее. Недавно разгорелись дебаты по поводу раздельного обучения в школах. И министры образования Берлина и земли Северный Рейн–Вестфалия постановили, что раздельное обучение допустимо на уроках математики, естественных наук и информатики. Мотив — самоуверенные мальчишки будут мешать развитию способностей у девочек.

Из всего этого господин Бродер делает простой и радикальный вывод: людей, которые не могут жить вместе, надо разделить. Британцев и ирландцев, сербов и хорватов, евреев и палестинцев, мужчин и женщин. Правда, он почему-то не говорит, чем именно разделить и как в итоге будут появляться новые мужчины и женщины.

# Голливуд умирает

## Предсказания Фрэнсиса Копполы

Один из величайших кинорежиссеров современности считает, что крупнейшая съемочная площадка мира Голливуд в течение ближайших двух лет может исчезнуть и стать достоянием истории.

Фрэнсис Форд Коппола высказал мнение, что «очень скоро студии Голливуда придут в запустение, так как их никто не захочет больше использовать для изготовления своей зрелищной продукции». По словам автора «Крестного отца», уже сейчас «фабрика грез» работает на холостых оборотах, не производя практически никаких шедевров, как это было, скажем, двадцать или тридцать лет назад. Картины, которые дотягивают до звания «нетленок», в частности «Титаник» режиссера Джеймса Камерона, скорее являются исключением из общих правил».

«Воротилы, заправляющие студиями под Лос-Анджелесом, сегодня относятся ко всем новациям в кинематографе с большой настороженностью и ужасно нервничают по поводу и без повода, — возмущается режиссер. — Толстосумы от кино зарабатывают по меньшей мере 60 млн. долларов в год, не прикладывая для этого особых усилий и не стремясь к развитию искусства».

По словам Фрэнсиса Копполы, режиссерам с начала 80-х годов на крупных студиях в США практически не удается снимать «свое кино». «Крупные компании со своими площадками превратились в монстров, уподобившись биржевикам и маклерам с Уолл-стрит, которые крутят любой проект на предмет прибыльности и безумных доходов и полностью опускают творческую и художественную стороны дела, — подчеркивает он. — В Голливуде работает принцип: если хочешь получить гонорар с шестью нулями, делай то, что скажут, и не напрягай голову».

Подтверждением этих слов, замечает Коппола, может служить работа Джеймса Камерона над «Титаником». Камерон не стал привлекать к съемкам «суперименитостей типа Ричарда Гира и Шерон Стоун». Ему и без звезд экрана удалось показать бессмертие любви на фоне самой глупой катастрофы нашего столетия. Своенравие и целеустремленность Джеймса привели к тому, что против «Титаника» ополчились многие боссы Голливуда. Однако они ничего не смогли поделать, так как фильм стал уникальным и побил «кассовые рекорды» во многих странах мира.



«Если Голливуд не осознает очевидного, то он подобно иссякающей нефтяной скважине обречен на гибель, — заключает Фрэнсис Коппола. — Во всяком случае, я не собираюсь с этим мириться. Что касается собственных новых задумок, то секретов пока раскрывать не стану».

# «На суд не приду: я умер»

**Экономисту из Балтимора Питеру Джентри грозит тюремное заключение сроком до десяти лет за весьма необычное мошенничество.**

Его преступление заключается в том, пишет американская газета *USA Today*, что ему удалось два раза избежать судебной ответственности за вождение автомобилем в нетрезвом состоянии путем... фальсификации собственной смерти. Первый раз в 1991 году он «умер» в результате автомобильной аварии на дорогах Лос-Анджелеса. Это произошло накануне судебного разбирательства по поводу его нетрезвого «вояжа» на автомобиле в штате Вирджиния. Спустя четыре года в этом же штате Джентри был арестован за аналогичное нарушение. На этот раз суд получил известие о его смерти из Хараре, Зимбабве, где он на этот раз «умер» от тропической лихорадки.

Возможно, аферисту все сошло бы с рук, если бы случайно его не заметил офицер полиции, который арестовывал его еще в 1991 году.

# Кто разгневался?

**Весьма курьезную ситуацию описывает газета *The Times*.**

Недавно молния ударила в купол минарета мечети, расположенной близ храма Гроба Господня в Иерусалиме. Был поврежден каменный полумесяц, а его осколки ранили трех православных паломников из Греции. Вот и заспорили верующие, кто из богов — Аллах или Иисус — разгневался и кого он хотел наказать. К концу дня в диспуте на площади возле храма участвовало, по подсчетам полиции, более тысячи человек!

*По материалам зарубежной печати и сообщениям информационных агентств полосу подготовил*
**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1180 Нумар падпісаны ў друк 21.04.98 (15:00) Наклад — 19.590